# НАША СВАБОДА

№12(99) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

31 СТУДЗЕНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Прэмію царквы атрымаў «праваслаўны атэіст»

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Шарэцкі пратэстуе супраць прысуджэння Аляксандру Лукашэнку прэміі міжнароднага фонду «Адзінства праваслаўных народаў». Пра гэта гаворыцца ў адкрытым лісце, які спікер накіраваў патрыярху Маскоўскаму і ўсяе Русі Алексію II.

Як адзначаецца ў лісце, «тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі закончыўся 20 ліпеня 1999 года», а «супраць створанага ім рэжыму ўзбуджаная крымінальная справа па факце захопу ўлады неканстытуцыйнымі метадамі і вядзецца следства». «Лукашэнка, як і ўсе дыктатары, раскалоў народ Беларусі ўсё па тым жа бальшавіцкім прынцыпе: хто не з намі, той супраць нас», — піша Шарэцкі. ►

*Заканчэнне на стар.3*

## Кому он нужен, этот батька?

**Виталий ПОРТНИКОВ**

Сегодня Москва и Минск пытаются сделать вид, что ничего страшного в российско-белорусских отношениях не произошло. И по большому счету они правы — ничего нового действительно не случилось. Просто давно назревшая напряженность в отношениях Лукашенко с Путиным выплеснулась на телевизионные экраны и позволила комментировать уже не слухи и домыслы, а публичные действия.

Последний приезд Лукашенко в Москву был действительно демонстративно проигнорирован высшим российским руководством. Главу союзного государства встречали чиновники, явно не соответствующие его статусу. Церемония вручения Лукашенко премии «За единение православных народов» также была практически проигнорирована российскими официальными лицами. Решение назначить исполняющего обязанности государственного секретаря российско-белорусского союза взамен Павла Бородина также было принято без согласования с Минском, хотя бы даже символического. Можно, конечно, рукоплескать по поводу того, что официальная Москва вытирает ноги об экзальтированного партнера по интеграции и душителя свобод в своей стране. ►

*Окончание на стр.3*

**У №9 і №11 НАШАЙ СВАБОДЫ друкаваліся матэрыялы «Не-эміграцыя» і «Гэта нонсенс». Па недаглядзе рэдакцыі не было ўказана, што інфармацыя ўзятая з «Радыё Свабода».**


Фота Ул.ШЛАПАКА

● За гэтым ручаём — Латвія, пра гэта сведчыць памежны латвійскі знак на тым беразе. А гэты бераг — беларускі

# Напад на слыннага дзеяча

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Сумная і жорсткая навіна – у рэанімацыю пасля жорскага нападу патрапіў вядомы беларускі тэатральны дзеяч, выбітны рэжысёр, нядаўні мастацкі кіраўнік тэатра «Вольная сцэна» Валеры Мазынскі.

Гэта здарылася ў суботу, 27 студзеня. Валеры Мазынскі вяртаўся дадому а палове на дзесятую вечара. Пры падыходзе да свайго дома, які знаходзіцца на праспекце Машэрава, па словах самаго рэжысёра, ён не заўважыў нікога падазронага. Але калі Мазынскі зайшоў у дваровую арку дома, ззаду пачуліся ціхія крокі і на галаву Мазынскага абрушылася нешта надта цвёрдае і цяжкае. Пасля медыцынская экспертыза ахарактарызуе прыладу нападзення як магчыма металічную палку. Мазынскі ўпаў і пачаў губляць прытомнасць. Але невядомы яўна прагнуў забіць рэжысёра, бо нанёс яшчэ пяць удараў па галаве Мазынскага гэтым прадметам. З апошніх сілаў Мазынскі здолеў закрычаць: «Дапамажыце! Забіваюць!», што яго і выратавала, бо злачынца паспешліва рэціраваўся.

З двара да цяжка параненага і беспрытомнага Мазынскага падбеглі падлеткі, дацягнулі яго да пад'езда, а затым выклікалі «хуткую дапамогу» і жонку рэжысёра Людмілу.

Хуткая прыехала толькі праз дваццаць хвілінаў пасля выкліку і павезла Мазынскага ў 9-ы шпіталь. Дактары канстатавалі чэрапна-мазгавую траўму, значныя, да надброўнай дугі рассячэнні лба, рассячэнне рукі, якой ён абараняўся, амаль да касці. Пры гэтым дадатковая небяспека ўтрымлівалася ў тым, што ў Мазынскага хворае сэрца, якое магло не вытрымаць такіх траўмаў. Але з ласкі божай усё абышлося.

Пасля шпіталя пацярпелага перавезлі ў рэанімацыйнае аддзяленне лечкамісіі. А ўжо ўчора пасля абеду Мазынскага перавялі ў хірургічнае аддзяленне, бо яму крыху палепшала.

Жонка Мазынскага, спадарыня Людміла, разважаючы аб матывах нападу на рэжысёра, лічыць верагоднай версію, што патэнцыйны забойца чакаў некага іншага, але ў цемры памыліўся і пачаў збіваць Валерыя. Іншая здагадка жонкі: гэта быў неўраўнаважаны маньяк, які чакаў каго б забіць. На нашую думку, існуе і трэцяя, магчыма, больш верагодная версія здарэння. Проста Мазынскі стаў некаму косткай у горле сваёй непрымірымай пазіцыяй, прынцыповай непахіснасцю і сваёй беларускасцю.

Па факце нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў Цэнтральны РАУС Мінска ўзбудзіў крымінальную справу.

НАША СВАБОДА жадае спадару Мазынскаму хутчэйшага выздараўлення ды вяртання да творчай працы. ■

## Валерый Мазынскі: Мне адпомсцілі за палітычную дзейнасць

У рэанімацыйным аддзяленні шпіталя рэжысёр Валерый Мазынскі адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.

***– Ці бачылі Вы таго, хто на Вас напаў?***

– Толькі пачуў ззаду нейкі шорах ці крок. Людзей вакол, здаецца, не было. Цемра двара і раптам страшэнны ўдар па галаве. Я вяртаўся з лазні, ішоў такі чысты, лагодны. З праспекта Машэрава скрочыў да магазіна «Алеся», прайшоў арку пад маім домам, павярнуў налева. Дарэчы, гэта дакладна тое самае месца, дзе два гады таму збілі Расціслава Янкоўскага. Ён вяртаўся з юбілею, з кветкамі ды шампанскім у руках, добра апрануты. Я ж сціплы, з торбай – з лазні. Гэта ўся розніца. У астатнім стопрацэнтнае падабенства. Моўчкі збілі, нічога не ўзялі, моўчкі сышлі. Я добра памятаю, як сыходзіў той, хто мяне біў. Дарэчы, біў не жалезнай, а нейкай драўлянай палкай па галаве. Топ, топ, топ, гучала ў цішыні вечара. Я губляў прытомнасць, але паспеў падумаць, што можа ён абыходзіць мяне з другога боку, каб нанесці апошні ўдар, і пачаў крычаць. Дзякуй Богу, мяне пачулі. Да мяне прыбеглі дзяўчынкі, у адной з іх быў мабільнік. Па ім і выклікалі маю жонку і хуткую дапамогу. ►

*Заканчэнне на стар.3*

## НАВІНЫ

■ **Амерыканская Служба іміграцыі і натуралізацыі выдала загад аб забароне для грамадзянаў Беларусі і Расіі перасоўвацца па тэрыторыі ЗША бязвізавым транзітам.** Час уступлення гэтага рашэння ў сілу адтэрмінаваны прыкладна да 5 красавіка ў сувязі з тым, што Джорджам Бушам адкладзеная рэалізацыя апошніх пастановаў адміністрацыі Біла Клінтана.

■ **У Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі — новы кіраўнік.** Пасля таго, як у леташнім снежні яе колішні прэзідэнт Аляксандр Вайтовіч стаў старшынёй так званага Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу, АН засталася без начальніка. З гэтага тыдня выконваючым абавязкі прэзідэнта Акадэміі навук стаў дырэктар Інстытута лесу Віктар Іпацьеў.

■ **Учора радыё «Нямецкая хваля» перадало, што брытанскай паліцыяй у Лондане затрыманы грузавік з нелегаламі.** У ім знаходзіліся і грамадзяне Беларусі. Аднак афіцыйнага паведамлення пра гэта ад англійскіх уладаў беларускай амбасадзе не паступала.

■ **Жыллё ў Беларусі паступова ўсё больш прыходзіць у заняпад.** Зараз у краіне з 212 мільёнаў квадратных метраў жылля каля 40% перабываюць у занядбаным стане. З іх 4 тысячы кватэраў наогул лічацца аварыйнымі. У прыватнасці, 1.800 мінскіх дамоў вымагаюць капітальнага рамонту.

■ **Мінэканомікі выдала пастанову аб новых скупачных коштах на металы.** Адзін грам золата ў вырабах і ломе 333-й пробы каштуе цяпер 2.920 рублёў; 583-й і 585-й – 5.130 рублёў, 958-й – 8.401 рубель. 1 грам срэбра прымуць у залежнасці ад пробы за 74-142 рублі. Самая дарагая плаціна – 17.895 рублёў.

■ **28 студзеня ў ваенных частках Беларусі адбыліся цырымоніі вайсковай прысягі хлопцаў, прызваных у армію ўвосень 2000 – узімку 2001 гадоў.** Сёлета ў студзені ў беларускія армейскія структуры прыйшлі каля 13 тысячаў чалавек.

■ **Памежнікамі Гомельскага атрада каля вёскі Белая Сарока Нараўлянскага раёна знойдзены ўчастак з дужа моцным радыяцыйным выпраменьваннем.** Забруджанасць тут складае 200 мікрарэнтгенаў на гадзіну. Гэта амаль у 10 разоў больш, чымсьці нават у навакольных мясцінах, якія лічацца аднымі з самых радыяцыйна забруджаных у краіне.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1230

# Валерый Мазынскі: Мне адпомсцілі за палітычную дзейнасць

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

***– Вы ўжо заявілі, што гэта не хуліганства ці напад з мэтай крадзяжу, а палітычная акцыя. З чаго такая ўпэўненасць?***

– Навошта ж нападаць, калі нічога не забіраць? Хаця б шапку маглі ўзяць, каб з'імітаваць рабаўніцтва... Напярэдадні мне казалі, што такое можа адбыцца. Адзін чалавек да мяне адмыслова прыязджаў, каб запярэдзіць, што мной вельмі цікавяцца супрацоўнікі спецслужбаў і не выключаюцца нейкія здарэнні. А раней, у разгар канфлікту з маім рэжысёрствам у тэатры «Вольная сцэна», былы міністр Аляксандр Сасноўскі раіў не лезці ў палітыку. Я раней меркаваў, што мае тэатральныя праблемы з-за яго, а цяпер думаю, проста ягонымі рукамі ўсё рабілася.

***– Ці заўважалі Вы за сабой сачэнне ў апошнія дні, можа мелі падазрэнні, што тэлефон праслухоўваецца?***

– Тэлефон у нас то трашчыць, то ламаецца, так што наконт праслухоўвання можна казаць, калі заўгодна. Ведаеце, я ўсё ж не лічыў


Фота Ул.ШЛАПАКА

сябе дзейсным апазіцыянерам, што я мусіў думаць пра сваю бяспеку. Я проста рабіў сваю справу, а ў нейкіх грамадскіх падзеях удзельнічаў як асоба, якая лічыць неабходным нешта зрабіць дзеля сябе, дзеля сваіх дзяцей.

***– Вы, такім чынам, усё ж не лічыце сябе палітыкам?***

– Калі гаварыць пра палітыку, то я ёй займаўся толькі праз свае спектаклі. Натуральна, гэта ўладамі не віталася. Вы ж бачыце, ранейшы тэатр разагналі. Ад страху, відаць, што там збіраюцца людзі і нешта чытаюць са сцэны не тое, што ўладзе падабаецца... Нейкая агонія. А можа дабразычліўцы папярэджваюць? Я ўжо думаў, а раптам гэты інцыдэнт са мной прыстасаваны да сустрэчы Лукашэнкі з дзеячамі культуры і мастацтва (смяецца – **А.Г.**).

***– Каб астатніх запалохаць?***

– Ды што нас, актораў, запалохваць? Гэта сярод мастакоў такія дзеянні яшчэ можна патлумачыць, а сярод нашай тэатральнай брацііі галовы ў такім глыбокім пяску, што няма каго пужаць.

***– Вы думаеце, асабіста Вас запужвалі?***

– Так, асабіста мяне. Канешне, мы ўсе жывыя людзі, і калі пачынаеш думаць пра гэта... Хаця не. Мне асабіста не страшна. Мяне яны не напалохалі, гэта адназначна. Нават яшчэ больш раззлавалі.

***– Вашым творчым планам гэты інцыдэнт пашкодзіць? Усё ж такі шпіталь, час страчваецца, нейкія фінансавыя абавязкі пад пагрозай. Ну, калі шчыра?***

– Не вельмі. Ужо з лютага мы, я маю на ўвазе новы недзяржаўны тэтр «Вольная сцэна», запланавалі выйсці да гледачоў з «Вечарам» Аляксея Дударава. І, я мяркую, гэтым планам не пашкодзіць тое, што са мной адбылося. Хаця я разумею, што білі мяне менавіта па галаве, каб адбіць мазгі і спыніць працэс творчасці. Не атрымалася. Я ўсё роўна буду рабіць свой тэатр. І супольна з Аляксеем Дударавым дамагацца, каб гэты тэатр быў цікавым і сучасным. Будзе складана, але я мушу займаца, чым я займаўся раней. Што рабіць, калі я такі рэжысёр, які не любіць п'есы, дзе абсалютна адсутнічае сацыяльная калізія і сацыяльны канфлікт. Тады трэба толькі «Вясёлую ўдаву» глядзець і больш нічога. А ў мяне іншы характар. Я рэжысёр драмы, а не рэжысёр скокаў толькі. Без гэтага мне сумна, так што калі выпадае гэтак, калі чытаецца гэтак, то я радуюся. А іншыя вось пачынаюць злавацца. Бачыце, аказваецца, гэта можа выплеснуцца і такім чынам, як збіццё ў падваротні – цалкам тэатральны сюжэт... ■

**Гутарыў Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Заява Беларускага Хельсінкскага камітэта

У апошні час у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Беларусі ўсё часцей з'яўляюцца выказванні высокапастаўленых чыноўнікаў, якія ставяць пад сумнеў неабходнасць назірання за выбарамі і дыскрэдытуюць інстытут маніторынгу.

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Беларускі Хельсінкскі камітэт» заяўляе:

– у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам усе грамадзяне маюць права назіраць за выбарамі;

– выбары з'яўляюцца аб'ектам цікаўнасці праваабаронцаў з пункту гледжання выканання грамадзянскіх і палітычных правоў;

– прысутнасць назіральнікаў на выбарах не вызначае іх легітымнасць, але дазваляе засведчыць дэмакратычнасць працэдуры і яе адпаведнасць міжнародным стандартам, якія выкладзены ў Капенгагенскім дакуменце 1990 г., які падпісала і Беларусь;

– БХК вядзе маніторынг выканання правоў чалавека ў Беларусі з 1995 года;

– маніторынг выбараў БХК вядзе праз прыцягненне тысяч валанцёраў-назіральнікаў;

– назіранне за выбарамі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі ў кастрычніку 2000 г. БХК праводзіў пры падтрымцы Еўрасаюза ў супрацоўніцтве з КНГ АБСЕ ў адпаведнасці з міжнароднымі абавязкамі Беларусі;

– згодна Статута і дзеючага заканадаўства БХК пачаў весці маніторынг падрыхтоўкі да выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і рыхтуе назіральнікаў.

РГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» расцэньвае выказванні прэзідэнта А.Лукашэнкі, накіраваныя на дыскрэдытацыю назіральнікаў, як прыкмету падрыхтоўкі грамадскай думкі да магчымага міжнароднага непрызнання выбараў.

РГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» выказвае рашучы пратэст любым спробам перашкодзіць рэалізацыі правоў грамадзян выбіраць кіраўніцтва краіны шляхам адкрытых і празрыстых дэмакратычных выбараў і ўдзельнічаць у назіранні за выбарамі. ■

# АБСЕ за самастойнасць

**Наталля КУЛАГІНА**

30 студзеня Кансультатыўна-назіральная група (КНГ) АБСЕ ў Беларусі распаўсюдзіла паведамленне, якое датычыцца сваёй «праектнай дзейнасці».

«Пастаянны савет АБСЕ, — гаворыцца ў паведамленні, — прыняў 14 снежня рашэнне, згодна з якім місіі АБСЕ павінны кансультавацца з адпаведнымі ўрадамі па праектах, фінансуемых з бюджэту ў выглядзе добраахвотных ахвяраванняў краін-членаў АБСЕ». Аднак пры гэтым, падкрэслівае КНГ АБСЕ, Пастаянны савет адхіліў прапановы паставіць рэалізацыю такіх праектаў у залежнасць ад згоды або ўхвалы прымаючага боку.

КНГ АБСЕ патлумачыла, што інфармуе аб снежаньскім рашэнні Пастаяннага савета ў сувязі з тым, што «ў афіцыйных заявах органаў урада Рэспублікі Беларусь працягваюць гучаць іншыя тлумачэнні». У якасці прыкладу прыводзіцца заява прэс-сакратара беларускага МЗС Паўла Латушкі ад 29 студзеня. Ён, у прыватнасці, заявіў, што рашэннем Пастаяннага савета АБСЕ ад 14 снежня 2000 года «ўсе фінансавыя праекты, якія ажыццяўляюцца місіямі АБСЕ незалежна ад краіны іх дзейнасці і фінансуюцца як з бюджэту АБСЕ, гэтак і за конт добраахвотных узносаў, павінны прадстаўляцца на ўзгадненне з урадам краіны знаходжання». Павел Латушка таксама паведаміў, што МЗС прапанаваў КНГ АБСЕ прадставіць на ўзгадненне з урадам Беларусі праекты, якія плануюцца місіяй да рэалізацыі ў 2001 годзе.

КНГ АБСЕ ў гэтай сувязі нагадвае, што «да прыняцця рашэння Пастаянным саветам АБСЕ адносна кансультацый па праектах Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ правяла кансультацыі па гэтаму пытанню і праінфармавала ўлады аб праектах». ■

**БелаПАН**

# «Крыўдзіцелі» Беларусі зведаюць маскоўскі адпор

**Максім ЦІТОЎ**

«Любыя спробы пакрыўдзіць Беларусь за збліжэнне з Расіяй будуць сустракаць рашучы адпор з боку Масквы». Такую заяву зрабіў міністр замежных спраў Расіі Ігар Іваноў раніцай 30 студзеня на паседжанні кансультатыўнага савета пры расійскім МЗС, удзельнікі якога абмеркавалі пытанні міжрэгіянальных сувязяў Расіі і Беларусі.

«Саюз з Беларуссю нам патрэбны не на паперы, а ў рэальным жыцці», — падкрэсліў міністр. У гэтай сувязі ён заклікаў да фарміравання трансгранічных супольнасцяў з сумежных абласцей саюзных краін. У гэтай працы, лічыць Іваноў, можна было б улічыць мадэль еўрарэгіёнаў, створаных партнёрамі па Еўрапейскаму Саюзу. Пры гэтым, падкрэсліў ён, неабходна «ўзважваць кожны крок з тым, каб не нанесці ўрон эканомікам дзвюх краін, не дыскрэдытаваць ідэю Саюза ў вачах двух народаў». Як заявіў кіраўнік расійскага МЗС, «у свеце няма іншай дзяржавы, якая была б звязана з Расіяй такімі ж прывілеяванымі саюзніцкімі адносінамі». Паводле ягоных слоў, «з улікам інтарэсаў абедзвюх краін і была абрана формула інтэграцыйнага працэсу, якая прадугледжвае поўную добраахвотнасць пры захаванні нацыянальнага суверэнітэту, незалежнасці і міжнароднага права суб'ектнасці».



Па выніках 2000 года Беларусь займае трэцяе месца сярод знешніх гандлёвых партнёраў Расіі, заявіў Ігар Іваноў. Сукупны тавараабарот перавысіў 9 мільярдаў долараў ЗША. Сувязі абедзвюх краін, паводле яго слоў, развіваюцца ў базавых галінах эканомікі, перш за ўсё, у паліўна-энергетычным комплексе, машынабудаванні і транспартнай сферы. Паводле слоў міністра, узаемнымі пастаўкамі прадукцыі сёння звязаны 200 беларускіх і каля 800 найбуйнейшых расійскіх прадпрыемстваў. Разам з тым, адзначыў ён, асноўная доля тавараабароту прыпадае толькі на 7-8 суб'ектаў Расіі з 79-ці, якія супрацоўнічаюць з беларускім бокам.

Сур'ёзнай перашкодай на шляху інтэграцыйных працэсаў, на думку кіраўніка расійскага МЗС, з'яўляецца стан разлікова-плацёжных аперацый і працэдур. «Улічваючы тое, што пакуль мы не маем магчымасці ажыццяўляць стопрацэнтны разлік у грашовай форме, неабходна вырашыць задачу стварэння адэкватнай сістэмы разліковых аперацый», — сказаў Іваноў. Ён таксама звярнуў увагу ўдзельнікаў паседжання на праблемы з забеспячэннем партнёраў па міжрэгіянальных сувязях «поўнай і даступнай інфармацыяй аб дзелавых магчымасцях». ■

**БелаПАН**

# Кому он нужен, этот батька?

*Окончание. Начало на стр.1*

Но сегодняшней Россией тоже, между прочим, управляют не Вашингтон с Джефферсоном. Действия российского руководства по отношению к Лукашенко вряд ли связаны с политической оценкой его действий в Беларуси и являются достаточно прагматичными. Они исходят из констатации того факта, что Лукашенко более не является серьезным политическим игроком.

Но что это означает? То ли, что не является серьезным политическим игроком президент Беларуси вообще? Ведь Лукашенко стал фигурой на российской политической сцене после того, как пытался предложить себя в качестве молодой энергичной альтернативы дряхлеющему Ельцину. Он вполне вольготно ощущал себя среди российских политиков: заигрывал с коммуно-патриотами, метался по российским регионам... Сейчас никакой альтернативы Лукашенко из себя не представляет. Его заигрывания с коммуно-патриотами никому не интересны, Путин заигрывает с ними же гораздо удачнее и — главное — безопаснее для власти. Руководителям регионов сейчас уж точно не до Лукашенко. Белорусский президент просто ничем не опасен Кремлю. И поэтому к нему можно относиться как к расшалившемуся руководителю субъекта федерации — ну в самом деле, не встречаться же с такой малозначащей фигурой президенту России! Но это только один ответ на вопрос, который заключается в том, что личность Лукашенко устарела для России, а просто президент Белоруссии здесь мало что означает...

Другой ответ может быть связан с тем, что в России без интереса относятся не к президенту Белоруссии, а именно к Лукашенко. Многие представители российской политической элиты — и этим объясняется существование пресловутой аналитической группы, опровергнутое официальными структурами — уверены, что Лукашенко не выиграет президентские выборы 2001 года, что от него устал не только нищающий белорусский народ, но и не ощущающая себя стабильно белорусская политическая и предпринимательская элита, что она воспользуется случаем, чтобы покончить с режимом непредсказуемого «батьки». То, что Лукашенко чувствует себя абсолютно уверенно, все контролирует и уверен в своей победе на выборах, еще ничего не означает. Милошевич тоже чувствовал себя уверенно, все контролировал, но выборы неожиданно проиграл. Есть и еще один пример: Кучма чувствовал себя абсолютно уверенно, все контролировал, выборы выиграл, а через год оказался в центре головокружительного политического скандала, развитие которого ставит под сомнение его пребывание на посту президента страны до конца срока полномочий...

Так что у российских собеседников Лукашенко есть основания сомневаться в его будущем и они непроизвольно ведут себя с ним как с политическим мертвецом. А может быть, вполне в духе нового кремлевского политического стиля, просто откровенно демонстрируют, что на поддержку Кремля Александр Григорьевич может не рассчитывать... ■

**Зеркало недели, 29 января 2001 г.**

# Бразаускас стал лидером крупнейшей партии

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Вильнюса**

Лидером объединившихся Демократической партии труда и Социал-демократической партии Литвы стал 68-летний экс-президент Альгирдас Бразаускас. Отныне новая левая партия будет называться Социал-демократической партией Литвы и станет самой крупной литовской политической организацией, объединяющей около 20 тысяч членов. Формально до сих пор А.Бразаускас не был членом ни первой, ни второй партии и лишь на съезде вступил в новую социал-демократическую партию.

**Договор об объединении двух влиятельных левых партий на съезде подписали Чесловас Юршенас и Витенис Андрюкайтис. Теперь юридически прекратила свою деятельность Демократическая партия труда, которая на протяжении последних десяти лет сыграла большую роль в политической жизни страны. ДПТЛ в 1992 году победила на парламентских выборах и, собрав абсолютное большинство мест в Сейме, правила Литвой до 1996 г. На парламентских выборах, которые состоялись 8 октября минувшего года, ДПТЛ и литовские социал-демократы получили 51 место, однако остались в оппозиции, поскольку правящую коалицию сформировал политический блок «новой политики» — Либеральный и Новый союзы Литвы.**

Председатель теперь уже самой крупной литовской партии А.Бразаускас завершил свое пребывание на посту президента в 1998 году и до осени прошлого года не занимался активной политикой. Однако избрание лидером социал-демократов означает окончательный возврат А.Бразаускаса в большую политику. Еще накануне партийного съезда, экс-президент Литвы был почти на 98% уверен, что процесс объединения левых партий состоится без особенных проблем и что он скорее всего станет лидером новой партии. Несмотря на отсутствие в активной политике, А.Бразаускас все это время оставался одним из самых популярных литовских политиков. По данным компании социологических исследований *Vilmorus*, А.Бразаускас занимает первое место (29,4%) среди политиков, которым полностью доверяют жители страны. За ним следует премьер-министр Литвы Роландас Паксас (16,6%) и нынешний глава государства Валдас Адамкус (14,7%).

Объединение левых партий приветствовали президент В.Адамкус и премьер Р.Паксас, приславшие делегатам съезда социал-демократической партии поздравительные телеграммы. По мнению спикера Сейма — руководителя Нового союза Артураса Паулаускаса, «всегда объединение или создание коалиций является большой ценностью». ■

# Прэмію царквы атрымаў «праваслаўны атэіст»

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

**Ён падкрэслівае, што існуючы ў Беларусі рэжым «з'яўляецца ў дачыненні да саміх беларусаў па сутнасці акупацыйным, бо ўсе ключавыя пасады ў ім займаюць стаўленікі Масквы, многія з якіх — кадравыя афіцэры спецслужбаў або ваеннаслужачыя».** У сталіцы Беларусі няма ніводнай беларускай школы, усе дзяржаўныя ўстановы і ВНУ працуюць на рускай мове. «А ўсіх тых, хто адстойвае правы беларускага народа мець сваю мову, паважаць сваю гісторыю і развіваць нацыянальную культуру, дыктатар і яго расійскае атачэнне таксама далучае да «нячэсных» і навешвае на іх ярлык нацыяналістаў», — гаворыцца ў лісце.

Яго аўтар лічыць, што прычына імкненняў Лукашэнкі «стварыць нейкі незвычайны дагэтуль славянскі саюз» — у імкненні рэжыму пашырыць сферу свайго ўплыву. Закрануўшы праблему адзінства праваслаўных славян, Сямён Шарэцкі нагадвае, што значная частка насельніцтва Беларусі спавядае каталіцызм і пратэстанцтва, а таксама шэраг іншых нехрысціянскіх веравызнанняў.

Аўтар ліста адзначае, што сам Аляксандр Лукашэнка лічыць сябе «праваслаўным атэістам». Зыходзячы з гэтага, ён робіць высновау аб тым, што праваслаўная царква неабходна Лукашэнку выключна «для дасягнення ўсё тых жа ўладалюбівых імкненняў». Вось чаму «такую ўвагу высокіх іерархаў Рускай праваслаўнай царквы да гэтага ... чалавека нельга лічыць нічым іншым, як падтрымкай расійскай шавіністычнай палітыкі ў адносінах да Беларусі», лічыць Сямён Шарэцкі. ■

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

# Освобождение от иллюзий

## Одиннадцать журналистов российского телеканала НТВ сходили на прием к Владимиру Путину

**Александр ДУБРАВИН**



Нет ничего нового под этими звездами! В последнее время НТВ — самый профессиональный и последний из независимых телеканалов России — стал испытывать на себе недюжинное давление властей, а его журналисты почувствовали самое пристальное внимание к себе силовых органов. Совершенно очевидно, что этот интерес вызван желанием Кремля подчинить НТВ своим глобальным шовинистическим пропагандистским задачам, но по старой византийской традиции рядится в одежды махрового лицемерия. Наивной российской публике предлагается поверить в вариант с расследованием неких злоупотреблений одного из основателей НТВ магната Владимира Гусинского. Расчет делается на извечную ненависть голодранцев к тем проклятым богатеям, которые, как известно, во все времена пьют кровь простого трудового народа и мешают построению справедливого братского сообщества, Великой Державы молочных рек и кисельных берегов. С этой проверенной идеей Россия идет по пути собственного неуклонного прогресса уже не одно столетие и будет идти с ней до полного конца. Сегодня идея снова успешно работает. Возмущение рядового обывателя сверхнаглостью магнатов заставляет его закрывать глаза на практику постепенного введения в России привычной революционной законности, когда все проблемы решаются властью прямо и непосредственно, в соответствии со своими животными инстинктами. Законы и мораль подгоняются под готовый ответ и в разжеванном виде подаются широкой публике.

На этом фоне журналисты НТВ проявили неожиданную для меня, просто детскую публичную незащищенность, показали собственную незрелость и непонимание самих основ существования того государства, в котором они живут. Они попросились на прием к Владимиру Путину, очевидно ожидая от него слов отеческого успокоения, защиты от притеснений, восстановления полной справедливости, надеясь, что он накажет виновных, обелит невинных и примет все необходимые меры для сохранения свободы слова в государстве. Когда-то так отчаявшиеся купцы шли кланяться «отцу родному царю-батюшке» с челобитной на «бояр-супостатов». Но с чем пришли, с тем же и ушли. Ничего нового Путин им не сказал, ничем не обнадежил, ничего даже не пообещал. Одни декларации о свободе слова и конкретные замечания по нюансам денежных кредитов журналистов. Показал, что он в курсе многих приватных околичностей, например, их телефонных разговоров. Более того, он тут же попытался расколоть их дружный коллектив и по старой гэбистской привычке отозвал инициатора встречи Светлану Сорокину в сторонку для личной профилактической беседы.

Растерянность и подавленность была написана на лицах тележурналистов после выхода из Кремля. Так одураченный игрок в наперсток стоит остолбенело на месте, глядя в никуда, чешет рукой затылок, а губы его шевелятся сами собой, словно подсчитывая, сколько же денег он оставил у проклятого мошенника. Зачем ходили, чего добились? Прекрасные профессионалы, интеллигентные и популярные в народе личности – они в результате оказались беспомощными перед бездушной машиной российской власти, олицетворяемой невысоким человечком с маленькими быстрыми глазками. На приеме у Путина они ощутили себя все теми же винтиками все той же молотилки.

Для нас, граждан суверенной Беларуси, все, что сегодня происходит в России, до боли знакомо, потому что делается по знакомым лекалам. Когда мы предупреждали москвичей об опасности возрождения тоталитаризма и у них по примеру Беларуси, они самоуверенно отмахивались: дескать, это у вас такие дураки, а у нас совсем иное дело, здесь слишком много денег и свободы. Они наивно верили в свою демократию, которой и не было вовсе. Просто им разрешили на некоторое время делать то, что запрещали ранее, а теперь забирают свое разрешение обратно. Россияне до сих пор не поняли, что они живут в прежней «империи зла», мирного выхода из которой в принципе не существует. Империи умирают, как неизлечимо больные: они долго мучаются сами и мучают окружающих. И смерть их, как смерть Кощея – в демократии, в свободе слова, в соблюдении прав человека. Не бывает империй демократических. Как не бывает демократических государств, которые угнетают другие народы, ведут внутренние войны, дружат с мировыми подонками. Общественность России долгое время получала тревожные сигналы о неблагополучии в своем Отечестве, но предпочитала не замечать их. Теперь остается столбенеть и шевелить губами. ■

# Лукашенко сам откажется от президентства. Пока только в НОКе

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Москвы**

Александр Лукашенко в ближайшее время намерен уйти с поста президента Национального комитета Беларуси.

По сведениям из Кремля, группа политтехнологов под руководством Глеба Павловского проанализировала возможности контрпропагандистских действий против Александра Лукашенко во время предвыборной кампании.

Последний план околокремлевские пиарщики придумали во время (!) хоккейного матча в Москве с участием Лукашенко. Они вспомнили, что глава белорусского государства является одновременно президентом Национального олимпийского комитета своей страны, хотя статья 86 Конституции Беларуси с поправками 1996 года гласит: «Президент не может занимать другие должности, получать помимо заработной платы денежные вознаграждения, за исключением гонораров за произведения науки, литературы и искусства». Теоретически на основании этой статьи Александр Лукашенко может быть вообще не зарегистрирован кандидатом в президенты или снят с дистанции в последний момент, подобно Руцкому в Курске.

Согласно источникам «Ю.С.Ньюс», сам Лукашенко узнал о существовании этих разработок от своих московских доброжелателей и через неделю вновь отправился в столицу России, рассчитывая встретиться с Владимиром Путиным и получить гарантии того, что подобные контратаки против него во время выборов Москвой применяться не будут. К тому же у президента Лукашенко был формальный повод для встречи с российским коллегой – арест госсекретаря союза России и Беларуси Павла Бородина.

Однако Александр Лукашенко, по мнению Кремля, переборщил с антиамериканскими заявлениями в аэропорту и даже заявил, что в США отмыли триллион долларов из России, тем самым косвенно подтвердив, что в России эти деньги были украдены, причем в период правления предшественника Путина президента Ельцина и нахождения самого Путина на таких постах, как заместитель Бородина в управлении делами президента и директор ФСБ.

Владимир Путин, желавший вообще не высказываться по делу Бородина, решил не принимать Лукашенко. Последний, по имеющейся информации, позвонил главе президентской администрации Александру Волошину, а тот якобы сказал ему примерно следующее: «Владимир Владимирович советует вам поменьше махать клюшкой, особенно в Москве и особенно в сторону США». Оскорбленный Лукашенко увидел в этом намек на его президентство в НОКе и разработки группы Павловского, поэтому сразу же приказал свернуть визит и лететь в Минск. Лишь в самолете на обратном пути была придумана версия с просьбой о встрече со стороны президента Киргизии, а самого Аскара Акаева разбудили ночью по бишкекскому времени и уговорили следовать этой версии, проведя в Минске вместо запланированного одного часа для дозаправки в аэропорту целых три часа с поездкой в резиденцию Лукашенко в центре столицы Беларуси.

Источники «Ю.С.Ньюс» в Кремле сообщают также, что с момента ареста Павла Бородина президенты Путин и Лукашенко ни разу (!) не говорили по телефону. ■

# Крывое люстэрка беларускай статыстыкі

## Яно традыцыйна выпраўляецца прыпіскамі ды недапіскамі

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Як сцвярджае афіцыйная статыстыка, за мінулы год вытворчасць валавага ўнутранага прадукту (ВУП) склала ў параўнальных цэнах 106 працэнтаў ад узроўню 1999 года. Да таго ж, амаль выкананае заданне вярхоўных уладаў па дасягненні эканамічных паказчыкаў часоў цалкам развітага сацыялізму: мінулагодні ВУП склаў ажно 89 працэнтаў ад памераў 1990 года.**

Да таго ж, у асобных галінах прамысловасці памеры вытворчасці аднаўленыя ці нават павялічаныя. Прыкладам, у чорнай металургіі.

Зноў жа, па дадзеных той жа статыстыкі, за мінулы год памер рэальнай зарплаты ў народнай гаспадарцы павялічыўся амль на 1/10, а рэальныя грашовыя даходы насельніцтва і таго болей — амаль на 1/5. Карацей: жыць стала лепей, жыць стала весялей.

Але ўсё ж адчуванне ўзнёсласці ад атрыманых на эканамічным фронце перамогаў ці няма, ці яны (адчуванні) нейкія нэнзлыя. А ўсё ад таго, што ніякая статыстыка не здольная адмяніць той просты факт, што ні тона металапракату, ні мяшок цэменту не здольныя замяніць сабой ні аднаго скрылёчка кілбасы, ні шклянкі малака.

А адкуль возмецца тая ж кілбаса, калі «ў натуры» мінулагодняя вытворчасць мяса жывёлы і птушкі склала ўсяго 41 працэнт ад аб'ёмаў вытворчасці 1990 года, а за год скарацілася ў чарговы раз больш, чым на 1/10. А ў Віцебскай і Гомельскай абласцях вытворчасць мяса склала ўсяго каля 1/3 ад памераў дзесяцігадовай даўніны.

Многа было гаворкі пра тое, што сельская гаспадарка ў мінулым годзе паказала натуральныя эканамічныя цуды. Таму, маўляў, бульбы і буракоў накапана болей, чым 10 гадоў таму. Але, па-першае, усё гэта не столькі вынік плённай працы, колькі справа рук божых: спрыяльнае надвор'е пашчыравала для ўраджаю болей, чым усе вучоныя аграрыі разам узятыя. Да таго ж, на адной бульбе можна хіба што выжываць, а нармальна жыць амаль немагчыма. Не дарма ж яе прынята называць хлебам для бедных. А гэтага хлеба мы пры ўсіх правіцелях «здабывалі» на душу насельніцтва болей за любую краіну свету. Ды і навошта такая процьма бульбы, калі статак скараціўся ці не ўтрая? Акрамя таго, бульбу ў вялікай большасці вырошчваюць не калгасы, а насельніцтва. Таму не трэба ўладам прыпісваць сабе чужыя перамогі.

Уласна кажучы, калгасы ўжо амаль згубілі сваю ролю як значныя вытворцы сельгаспрадукцыі. Што тычыцца той жа бульбы, вытворчасці садавіны ды гародніны, то яе, гэтую ролю, цяжка вызначыць нават статыстычна. А ў жывёлагадоўлі адносна высокія паказчыкі забяспечваюцца не калгасамі, а буйнымі комплексамі, уключаючы птушкафабрыкі. А гэта ўжо прамысловасць! Застаецца хіба толькі вытворчасць збожжавых. Але і гэта пытанне збольшага не калгаснае, бо, пачынаючы з пасяўной да збору і дапрацоўкі ўраджаю, увесь працэс забяспечваецца коштам не калгасных, а дзяржаўных рэсурсаў. А калі больш дакладна, то коштам усяго грамадства, на грошы якога і купляюцца ўсе гэтыя рэсурсы. Бывае, праўда, што Лукашэнка падчас з кім-небудзь з расійскіх алігархаў ад улады згуляе ў тэніс, бывае выйграе, бывае што атрымае выйгрыш у выглядзе нейкіх там для нашай аграэканомікі прэферэнцыяў. Але гэта адбываецца нерэгулярна...


Фота IREX/ProMedia

Ці адлюстроўвае статыстыка заробак старой жанчыны, якая прапаноўвае дранікі пасажырам цягнікоў ?

Акрамя таго, *вялікае значэнне* мае структура дасягнутага сельгасвытворчасцю росту. Бо павелічэнне прадукцыі раслінаводства азначае, што ён адбыўся ў тым ліку і за кошт павелічэння вытворчасці саломы. Вось і стаяць у полі вялізныя скірды гэтых грубых кармоў, якімі скаціну, канешне, карміць можна. А чалавека?

Вось і атрымоўваецца, як у той казцы пра вяршкі і карэньчыкі. І выйсця няма — трэба налягаць на бульбу. Бо ў мінулым годзе пры росце цэнаў на харчтавары ў 1,97 раза, *мяса і мясапрадукты, свежая* рыба, сахар у цане павялічыліся намнога болей. Нават кошт солі вырас у тры разы. Зразумела, на солі, як і на запалках, не разбагацееш і не пабяднееш. Але болей чым у тры разы даражэйшымі стаў увесь хлебабулачны асартымент. А гэта ж галоўны прадукт для ўсіх. Асабліва для бедных. Да таго ж, больш-менш прыстойны хлеб можна купіць толькі ў Мінску (можа дзе і яшчэ, невядома), а тымі боханамі, што робяць у райцэнтрах, праз дзень можна цвікі забіваць. Але нават і такі хлеб буракамі не заменіш.

Да таго ж, трэба ўлічваць, што за мінулы год паслугі жылкамгасу падскокнулі ў цане болей чым у пяць разоў, прычым ацяпленне — у сем, а электрычнасць — нават у дзесяць. Калі так пойдзе і далей, то ці не давядзецца той калгаснай саломай і тапіцца, і харчавацца. У трэцім тысячагоддзі, на парозе, як нам абяцаюць улады, постіндустрыяльнага грамадства...

Ды не толькі сацыяльныя ды эканамічныя паказчыкі наводзяць на роздум і выклікаюць сумнеў. Прыкладам, рост злачыннасці звычайна звязваюць з пагаршэннем узроўню і якасці жыцця. У нас жа яна расце, нягледзячы на тое, што жыццё быццам бы паляпшаецца. І мінулы год не быў у гэтым сэнсе выключэннем. Агульны рост злачыннасці быццам бы невялікі (3,8 працэнта), але колькасць рабаванняў, разбояў, крадзяжоў, хабарніцтва намнога перавышаюць сярэднія тэмпы. Прынамсі, колькасць злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, выпадкаў махлярства павялічылася ў 1,2-1,5 разы.

Прычым, справа толькі аб зафіксаваных выпадках, аб выяўленых злачынствах. А колькі з іх застаецца па-за ўвагай праваахоўных органаў? Да таго ж, давер насельніцтва да іх такі, што многія з пацярпелых не звяртаюцца да міліцыі, нават калі іх пабілі ці абакралі. Дакладна ведаю, што ў многіх вёсках і вёсачках людзі, у большасці састарэлыя, жывуць у атмасферы натуральнага крымінальнага тэрору. Бо ў раёнах міліцыя невялікая па колькасці, не мае транспарту і паліва да яго, на здарэнне выязджае без асаблівай ахвоты, а яшчэ менш шчыруе ў пошуках злачынцы. Таму праз пэўны тэрмін участковы звычайна звяртаецца да ахвяры злачынства так: «А ці не забралі б вы, цётка, сваю заяву!» Зразумела, трэба ж раскрываемасць. А ў такой сітуацыі, калі заявіш на таго, хто ў цябе сцягнуў калёсы са двара, дык ён другім разам і хляўчук твой спаліць ці парсючкам у ежу атруты падсыпле. І паспрабуй, не дай такому ў доўг ці пляшку самагонкі «на павер».

Карацей, куды вокам ні кінь, усюды ці прыпіскі, ці недапіскі. ■

# Банкротство интернета

**Джордж СОРОС,**
**известный американский финансист, автор книги «Открытое общество: реформируя глобальный капитализм»**

**Когда интернет-экономика была на подъеме, ее успех казался вечным. Инвесторов, похоже, совершенно не заботила убыточность большинства «дот-комов». Курс акций интернет-компаний стал определяться числом подписчиков и клиентов. Игра заключалась в привлечении капитала, а не в получении прибыли. Даже если курс новомодных акций резко падал, то их падение мало сказывалось на рынке в целом. Люди выучили, что покупать упавшие акции выгодно, и сохраняли эту привычку до тех пор, пока не стали действовать себе в убыток.**

Сейчас, когда ажиотаж вокруг интернет-экономики затих, стали слышны рассуждения о возврате к «основам». Но эти разговоры – такая же полуправда, как и предыдущие заявления о якобы вечности интернет-бума, который будет покоиться на новых «основах», создаваемых интернет-экономикой. В действительности, наблюдаемый цикл взлета/падения интернет-экономики тесно увязан с преобладающими экономическими теориями функционирования финансовых рынков.

Стало очевидным, что так называемые основы, которые, как казалось, определяли стоимость акций, существуют не изолированно. Наоборот, они обусловлены поведением финансовых рынков. Действительно, курс акций компаний влияет на благосостояние последних самым разным образом: он определяет стоимость уставного капитала, от него зависит поглощение других компаний или же другими компаниями, курс акций влияет на кредитоспособность компании и на эффективность схемы долевого участия при привлечении и вознаграждении менеджеров, курс акций служит средством рекламы и маркетинга. Иными словами, когда финансовый рынок верит в благополучие компании, ее «основы» улучшаются; если мнение рынка меняется, то вместе с ним меняется и фактическое благосостояние компании.

Не нужно было быть гением, чтобы убедиться в недолговечности модели интернет-бума, основанной не на соображениях прибыльности, а на спекулятивных ожиданиях роста курса акций. Также не требовалось гениальности для того, чтобы предвидеть последовавшее за взлетом падение, но предугадать точную дату этого падения было гораздо сложнее. Летом 1999 года я был убежден в том, что надвигается крах интернета. Однако после кратковременного падения курсы акций интернет-компаний вновь восстановились, в отдельных случаях взлетев на невиданную ранее высоту. Институты, для которых относительные показатели значили все, чувствовали себя обязанными наращивать интернет-активы. Курс акций *Yahoo* после включения компании в индекс S&P500 за день подскочил на 30 процентов. Люди, подобно мне выставившие на продажу интернет-акции по низкой цене в ожидании неизбежного краха, затем были вынуждены выкупать их, неся огромные потери. Я продолжал верить в то, что крах вот-вот наступит, но не мог позволить упорствовать в такой уверенности.



Современный «чип» может нести муравей. Техника для интернета требует огромных финансовых затрат

Несмотря на известную иррациональность, интернет-бум был не просто пузырем. Оптимизм финансовых рынков не только изменил «основы» (т.е. основополагающие принципы ведения дел) в отдельных компаниях, он также реально и ощутимо повлиял на экономику в целом. Бум не только был вызван развитием интернета, он ускорял это развитие, оказывая влияние на темпы и глубину технического прогресса. Аналогичным образом бум приводил к ускорению распространения новых технологий в телекоммуникационном секторе.

Причиной наступившего в конце концов краха интернета послужила не плохая экономическая модель, а чрезмерное расширение кредита. Нынешнее замедление экономического развития влияет на «основы» отдельных компаний почти столь же серьезно, как и на курс их акций; оно также затрагивает финансовую систему и макроэкономические показатели.

Вместо односторонней схемы, в которой финансовые рынки более-менее точно учитывали изменения в будущем, возникает обратная связь, когда финансовые рынки определяют будущее, на которое, как считается, они просто должны делать поправку. При таких обстоятельствах участникам рынка бессмысленно строить свои решения исключительно на ожиданиях изменения «основ», поскольку «основы» не определяют рыночные цены, — наоборот, «основы» определяются рыночными условиями. Поэтому для участников рынка важен будущий курс рыночных цен, а не стоящие за этим курсом изменения «основ». Если рыночные цены отклоняются от теоретического положения равновесия, то нет никакой гарантии, что они когда-либо в него вернутся.

Вот почему недавние взлеты и падения курсов акций интернет- и телекоммуникационных компаний настолько показательны. Эти события нельзя объяснить с точки зрения рыночной эффективности и рациональных ожиданий. Я выдвинул альтернативное объяснения, заключающееся в наличии двусторонней связи между «основами» и денежными оценками, связи, которую я называю «рефлексивностью».

Я удивлен и поражен тем, что экономисты игнорируют мои аргументы. Они утверждают, что феномен рефлексивности уже учтен в концепции *множественного равновесия* – теории, получившей распространение в последнее время. Может и так, но я до сих пор не понимаю, как постоянные отклонения от теоретического положенния равновесия укладываются в рамки теории множественного равновесия.

Почему же мои доводы не встречают понимания? Да потому, что они ведут к заключению о врожденной непредсказуемости финансовых рынков. Меня спрашивают: в чем же ценность научной теории, не дающей применимых на практике *прогнозов? Я утверждаю*, что лучше смириться с неопределенностью, заложенной в природе поведения финансовых рынков, нежели цепляться за теорию, которая кажется научной, но искажает реальность. Если признать потенциальную нестабильность финансовых рынков, то в качестве одного из выводов финансовым властям придется согласиться с тем, что предотвращение эксцессов находится в их компетенции. ■

© Project Syndicate

**ФІНАНСЫ**

## Цэны растуць спакойна

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першыя тры тыдні студзеня рост спажывецкіх цэнаў у краіне склаў 3,5% (за першы тыдзень — 1,4, за другі — 0,9, за трэці — 1,2). Для параўнання: за першыя тры тыдні снежня 2000 года цэны выраслі на 4%, за першыя тры тыдні студзеня 2000 года — на 10,9%.

Згодна з прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2001 год, рост спажывецкіх цэнаў не павінен перавышаць 3,5 працэнта ў месяц. Аднак ужо відавочна, што ў студзені інфляцыя выйдзе за ўстаноўленыя рамкі. ■

## Кожнаму — уліковы нумар

**Наталля КУЛАГІНА**

30 студзеня прэс-цэнтр Дзяржаўнага падатковага камітэта (ДПК) Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіў паведамленне, у якім нагадвае, што, згодна з пастановай урада ад 17 жніўня 2000 года, фізічныя асобы, даходы якіх падлягаюць дэклараванню, абавязаныя зарэгістравацца ў якасці падаткаплацельшчыкаў у падатковым органе па месцы жыхарства не пазней за 15 дзён да тэрміну, устаноўленага для прадастаўлення дэкларацыі аб даходах. Ім будзе прысвоены ўліковы нумар падаткаплацельшчыка (УНП). Яго прысваенне, як падкрэсліваюць у ДПК, будзе рабіцца бясплатна.

Сёлета асобы, якія прадастаўляюць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе ўпершыню, абавязаныя падаць заявы аб прысваенні УНП да 15 лютага. ■

БелаПАН

**Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка».**

**Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.**

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

*Рэдакцыя газеты прыносіць прабачэнні ААБ «Беларусбанка» за недакладнае пазначэнне банкаўскай паслугі.*

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма

Пеня
Плательщик Всего

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма

Кассир

Пеня
Плательщик Всего

# Рогі і капыты

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

Калгасы — гэта вельмі добра, сцвярджаюць адны. Калгасы – гэта дрэнна, сцвярджаюць іншыя. Усе яны, мабыць, аграрыі. Сэрца ім баліць аб вёсцы. Гэта нашыя суграмадзяне. Мы павінны паважаць іхную волю выказвацца. Але яшчэ болей мы павінны паважаць жаданне суайчыннікаў з'есці біфштэкс, катлету альбо апетую нашым правадыром скварку.

Усе згаданыя апетытныя мясныя прадукты і не згаданыя, не менш апетытныя малочныя, ёсць вынікам жыццядзейнасці сельскагаспадарчых жывёлаў. Разводзяць і даглядаюць тых жывёлаў вяскоўцы.

Найбольш распаўсюджаныя на Беларусі дзве арганізацыйныя формы жывёлагадоўлі: прыватная гаспадарка і калгасна-саўгасная вытворчасць. Звесткі аб развіцці дзяржаўнага сектара сельскай гаспадаркі ў 2000 годзе і параўнанні разлічаныя і апублікаваныя міністэрствам статыстыкі.

Адзіным станоўчым вынікам мінулага дзесяцігоддзя можна лічыць тое, што колькасць сельскагаспадарчых жывёлаў хутчэй чым у іншых месцах скарачалася ў той частцы краіны, каторая найболей пацярпела ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Разгляд другой таблічкі таксама нясе суцяшальную думку, паколькі пагалоўе скарачаецца крыху павольней за вытворчасць, гэта дае тэарэтычны шанц на аднаўленне айчыннай жывёлагадоўлі.

Іншая рэч, у які спосаб гэта адбудзецца. Сельская гаспадарка нават без нашага ляманту была і застаецца прыярытэтнай галіной. З 1990 года наўпрост ці ўскосна дзеля яе падтрымкі рознымі ўрадамі было скіравана не меней як 2,5 млрд. долараў субсідыяў. Цэнавы кантроль, гандлёвыя абмежаванні, цэнтралізаванае размеркаванне танных інвестыцыйных рэсурсаў, абавязковасць дзяржаўнай замовы на прадукцыю – вось найбольш распаўсюджаныя спосабы дзяржаўнага рэгулявання на вёсцы.

Няхай бы сабе рэгулявалі, каб тыя долары, што рэгуліроўшчыкі выкарыстоўваюць, не мелі адно і тое паходжанне – нашыя кішэні. Відавочна, што ў выніку маніпуляцыяў з народнымі грашыма павароту да лепшага не адбылося.

Пры тым, трэба адзначыць, што колькасць вясковага насельніцтва менш скарацілася за апошнія дзесяць гадоў там, дзе адбыўся найбольшы спад вытворчасці. То бок і вяскоўцаў крыўдзіць не варта, тым больш, што гэта пераважна сталага веку людзі.

Коштам скарачэння экспарту і некаторага змянення структуры харчавання покуль што атрымліваецца задавальняць попыт насельніцтва краіны. Аднак, калі не будуць выпраўленыя структурныя дысбалансы, механізмы фармавання попыту, фінансавае становішча і метады разлікаў з партнёрамі па аграбізнесе, тэхналогія захоўвання, перапрацоўкі і дастаўкі харчу і шмат чаго яшчэ, то дзядулькі з бабулькамі нас не ўратуюць. Адстанем мы ад суседзяў і, жывучы на добрай зямлі, патрапім у харчовую залежнасць, што вельмі сорамна і небяспечна дзеля такой слаўнай дзяржавы, як наша. ■

**ЗМЯНЕННЕ КОЛЬКАСЦІ АСНОЎНЫХ ВІДАЎ ЖЫВЕЛЫ Ў СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ**

| | Буйная рагатая жывёла | | У тым ліку каровы | | Свінні | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | на 1 студзеня 2001г., тыс. галоваў | у % да 1 студзеня 1991г. | на 1 студзеня 2001г., тыс. галоваў | у % да 1 студзеня 1991г. | на 1 студзеня 2001г., тыс. галоваў | у % да 1 студзеня 1991г. |
| **Беларусь** | **3537,7** | **58** | **1242,4** | **74** | **2089,6** | **61** |
| Вобласці: | | | | | | |
| Брэсцкая | 677,2 | 63 | 218,1 | 78 | 318,7 | 73 |
| Віцебская | 545,6 | 55 | 213,6 | 75 | 342,9 | 56 |
| Гомельская | 527,1 | 50 | 201,1 | 72 | 270,1 | 60 |
| Гродзенская | 580,9 | 70 | 174,1 | 82 | 495,0 | 76 |
| Мінская | 742,1 | 55 | 276,8 | 68 | 452,3 | 55 |
| Магілёўская | 464,8 | 54 | 158,7 | 69 | 210,6 | 46 |

**ВЫТВОРЧАСЦЬ АСНОЎНЫХ ВІДАЎ ПРАДУКЦЫІ ЖЫВЕЛАГАДОЎЛІ ЗА 2000 ГОД У СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ**

| | Рэалізацыя жывёлы і птушкі (у жывой вазе) | | Вытворчасць малака | |
|---|---|---|---|---|
| | 2000 г., тыс. т | у % да 1990 г. | 2000 г., тыс. т | у % да 1990 г. |
| **Беларусь** | **619,1** | **41** | **2663,6** | **47** |
| Вобласці: | | | | |
| Брэсцкая | 120,5 | 47 | 508,1 | 52 |
| Віцебская | 82,2 | 35 | 405,9 | 47 |
| Гомельская | 83,2 | 34 | 360,5 | 38 |
| Гродзенская | 120,7 | 49 | 441,2 | 59 |
| Мінская | 144,7 | 45 | 598,8 | 45 |
| Магілёўская | 67,8 | 36 | 349,1 | 46 |

СПОРТ

## Фёдарава кідала ўбакі – і выкінула з дзесяткі

**Аляксей ЗУБРОЎСКІ**

Адна перамога, адна нічыя і дзве паразы – такі вынік выступлення беларускага шахматнага грасмайстра на супертурніры ў галандскім Вей-ан-Зэе ў апошніх чатырох турах. Гульні на вынік (а не на нічыю) – гэта ў звычаях Фёдарава, і таму такі ход падзей абсалютна не здзіўляе. Спачатку наш грасмайстр прайграў белымі фігурамі расіяніну, аднаму з лідэраў турніру, Аляксандру Маразевічу, а затым ужо чорнымі перамог англічаніна Майкла Адамса, які да гэтай паразы таксама ўваходзіў у групу лідэраў.

Наступным сапернікам Фёдарава быў балгарын Весялін Тапалаў, асноўны канкурэнт у барацьбе за месца ў дзесятцы. Тут атрымалася нічыя, а ў апошнім туры – зусім неабавязковы пройгрыш ад не самага моцнага расіяніна Сяргея Цівякова выкінула Фёдарава за межы дзесяткі лепшых на турніры.

Такім чынам, пасля фінішу турнірнае становішча такое: расіянін Гары Каспараў – безумоўны пераможца, ён набраў 9 ачкоў з 13 магчымых. Індыец, чэмпіён свету па версіі ФІДЭ, Вішванатан Ананд набраў 8,5 ачкоў, расіянін Уладзімір Крамнік і ўкраінец Васіль Іванчук – па 8 ачкоў. Здзівіў наваяўлены іспанец Аляксей Шыраў, які займаў перадавую пазіцыю яшчэ за чатыры туры да фінішу, а пасля «зліў» амаль усе свае гульні.

Аляксей Фёдараў заняў адзінаццатае месца з 5 ачкамі, што ў прынцыпе можна лічыць поспехам, бо на такім прадстаўнічым турніры, найвышэйшай дзевятнаццатай катэгорыі, з такім рэйтынгам, які мае беларус, набраць паказчык усяго «-3» – вельмі ганарова. Хаця першапачаткова было гонарам атрымаць запрашэнне на гэты турнір. ■



● У гэтым шахматным палацы ў Індыі Фёдараў прайграў Чэмпіянат свету

## Месца для рэабілітацыі іміджу – Славенія

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

У гэтую суботу ў славенскім мястэчку Паклюка распачнецца штогадовы чэмпіянат свету па біятлоне. Самы актыўны ўдзел у ім прымуць і мужчынская, і жаночая зборныя Беларусі па біятлоне.

Няўдалае выступленне беларусаў на амаль усіх этапах Кубка свету па біятлоне ў гэтым годзе навявае сум, калі абдумваеш перспектывы выступлення нашых біятланістаў на гэтым першынстве свету. Але надзея, як банальна гэта ні гучыць, памірае апошняй, і таму першую гонку першынства 3 лютага ў 11.15 па беларускім часе мы будзем чакаць з нецярпеннем. А будзе гэта мужчынскі спрынт. У той жа дзень пройдзе і спрынт жаночы. Больш поўны расклад гонак мы дадзім у перадчэмпіянатным нумары ў пятніцу. ■



# Уроки истории разделенного острова

## Удача народа – умный и популярный лидер

**Джеффри Д.САКС,**
**директор Центра международного развития в Гарвардском университете**

**На расстоянии семи сотен миль от побережья Флориды расположен один из самых бедных уголков на планете – Испаньола. Здесь была первая остановка Кристофора Колумба в Новом свете. Остров находится в полутора часах лета к югу от Майами, и можно было бы ожидать, что он будет тропическим раем и заодно излюбленным местечком для оффшорного бизнеса Соединенных Штатов. Но реальность гораздо более жестока.**



Испаньола является домом для двух наций. Гаити, на западной стороне, — самая бедная страна на Американском континенте. Доминиканская республика, на востоке острова, более богата, здесь средний доход в шесть раз превышает средний доход на Гаити. Тем не менее, и Доминиканская республика испытывала политический и экономический хаос вплоть до прорыва, произошедшего в последнее десятилетие. С возвращением в прошедшем году на должность президента Жана-Бертрана Аристида продолжительный цикл бедности и насилия в Гаити может закончиться.

Обнищание Испаньолы берет начало в эпоху существования колоний. Европейцы колонизировали Карибские острова и безжалостно принуждали миллионы рабов-африканцев работать на сахарных плантациях и умирать молодыми. Тропические леса вырубались для расширения плантаций. Испаньола испытала на себе самые ужасные последствия сведения лесов, эрозии почв и разрушения сельскохозяйственного производства, особенно на гаитской стороне.

После прекращения рабства когда-то прекрасный остров едва мог кормить огромное число людей, бывших в прошлом рабами. Расизм в Америке еще более ухудшил условия жизни. Америка отказывалась признавать Гаити независимой страной до 1860-х годов, то есть еще около шести десятилетий после того, как восстание рабов на Гаити положило конец колониальному правлению Франции.

Такие страны, как Гаити и Доминиканская республика, обнаружили, что плывут по течению с необразованным населением, с полуживым сельским хозяйством, дающим минимальные средства для существования. Долгосрочные нужды этих людей требовали массивных инвестиций в здравоохранение и образование, а также перехода к новым направлениям экономической активности. В 20-ом столетии среди прибыльной деятельности на Карибских островах были туризм, проведение оффшорных банковских операций, интенсивное за счет дешевого труда производство, особенно текстильная и швейная промышленности, а также сборка электроники. Но гаитянский и доминиканский диктаторские режимы, которые находились у власти на протяжении этих десятилетий, были неспособны привлечь даже эти виды бизнеса.

Доминиканская республика, несмотря на диктаторское правление и периодические вторжения со стороны США, не так давно совершила прорыв к развитию системы здравоохранения и образования и переходу к прибыльному производству и деятельности в сфере предоставления услуг. В результате она превратилась в 90-х годах в одну из наиболее быстро растущих экономик в мире с увеличивающимися инвестициями в туризм и интенсивным за счет труда производством.

На Гаити нищета еще более углубилась. Америка поддерживала ряд жестоких диктаторов, незаинтересованных в экономическом развитии. Когда в середине 1980-х годов пала диктатура Дювалье, Америка начала оказывать содействие процессам демократизации, но всплески насилия привели к тому, что Америка наложила на страну экономические санкции. Эти действия рассеяли даже то незначительное инвестирование, которое производилось в Гаити.

Лидер бедняков Гаити Жан-Бертран Аристид выиграл президентские выборы, проводившиеся в 1990 году, но был свержен в результате военного переворота. Спустя три года Аристид вернулся к власти при поддержке вооруженных сил Соединенных Штатов.

Ситуация на Гаити таит в себе опасность. Немногие обеспеченные гаитяне не доверяют Аристиду, а он не доверяет богатым по двум причинам: они поддержали переворот, направленный против него, и традиционно враждебно относятся к реформам.

Столетия насилия и бедности могут, в конце концов, привести к социальному и экономическому прогрессу, если все ключевые участники поднимутся выше своих личных баталий. Президент Аристид понимает, что настоящая его битва должна быть направлена не против небольшого сообщества богатых, а против массовой бедности. Эта битва требует крупных инвестиций для создания рабочих мест, а также финансовой помощи от Америки и ООН для борьбы с болезнями, безграмотностью и проблемами окружающей среды.

Массовая популярность Аристида заключает в себе возможность для проведения реформ, которые могут стать основой долгосрочного экономического развития. Гаити не смогут сами преодолеть свою бедность. Гаити требуется срочная финансовая поддержка для того, чтобы дети пошли в школы, чтобы сократились такие заболевания, как туберкулез и СПИД, которые убить многих людей.

Гаити является ярким примером того, как цикл бедности, болезней и насилия репродуцирует сам себя в течение многих поколений. Несложно увидеть путь экономического развития, но чтобы на него встать, бедные страны часто нуждаются в доброй воле и поддержке своих сильных соседей, как, впрочем, и в удаче. Удача Гаити сегодня — иметь популярного и свободно избранного лидера. Когда страны с трагической историей получают подобное проявление знаков удачной судьбы, богатые и могущественные мира сего должны использовать этот шанс, чтобы помочь таким странам развиться. ■

© Project Syndicate



## Фатальная сустрэча з расіянінам

Урад Канады запатрабаваў ад Расіі, каб яна прыпыніла дыпламатычны імунітэт у адносінах свайго дыпламата, які наехаў машынай на людзей у Атаве.

Канадскі міністр замежных справаў Джон Мэнлі заявіў журналістам, што ўрад лічыць інцыдэнт вельмі сур'ёзным, але мае мала што зрабіць, пакуль Расія будзе спасылацца на Венскую канвенцыю, якая надае дыпламатам імунітэт супраць крымінальнага пераследу ў краіне знаходжання.

Па звестках сталічнай канадскай паліцыі, легкавік, за рулём якога быў расійскі дыпламат у нецвярозым стане, збіў 50-гадовую Катрын Маклін, якая прагульвала па вуліцы свайго сабачку. Жанчына памерла на месцы трагедыі. Яе сяброўка, 56-гадовая Катрын Дор, якая была з Маклін на гэтай фатальнай прагулцы, атрымала раненні і патрапіла ў шпіталь. Моцна была траўміравана і сабачка, яе прыйшлося ўсыпіць, што ў Канадзе лічыцца за надзвычайнае здарэнне.

Затрыманы кіроўца легкавіка паказаў паліцыі дыпламатычнае пасведчанне, катэгарычна адмовіўся ад тэста на алкагалізм і як дыпламат быў адпушчаны. Напачатку канадскія ўлады не паведамлялі імя расійскага дыпламата. Паслу Расіі, выкліканаму ў міністэрства замежных справаў Канады, было таксама заяўлена, што адначасна ў Атаве зафіксаванае яшчэ адно дарожнае здарэнне з удзелам расійскага дыпламата, хоць яно абышлося без пацярпелых. У адносінах абодвух дыпламатаў Канада высунула аднолькавае патрабаванне аб пазбаўленні дыпламатычнага імунітэту. У Атаве нагадваюць, што з падобным выпадкам сутыкнуліся ЗША і Грузія ў 1997 годзе, калі нецвярозы супрацоўнік грузінскага пасольства наехаў на дзяўчыну ў Вашынгтоне. Яна загінула. Тады прэзідэнт Шэварднадзе пазбавіў дыпламатычнай недатыкальнасці свайго дыпламата, і амерыканскі суд прыгаварыў яго да працяглага турэмнага зняволення. Праз год былога дыпламата дэпартавалі ў Грузію, дзе ён працягвае адбываць пакаранне.

Расійскі дыпламат, 45-гадовы Андрэй Князеў, які збіў дзвюх жанчын і сабачку ў Атаве, займае пасаду першага сакратара па палітычных пытаннях пасольства РФ. Цяпер ён абвінавачваецца ў злачыннай неасцярожнасці, вынікам якой сталі смерць і цялесныя пашкоджанні людзей, а таксама ў адмове прайсці праверку на ўтрыманне алкаголю ў крыві.

Расія адазвала сваіх службоўцаў, не пагадзіўшыся зняць з іх імунітэт і перадаць канадскаму суду. Справы адазваных супрацоўнікаў пасольства РФ будуць разглядацца на радзіме ў адпаведнасці з законамі Расіі.

Чым можа закончыцца для вінаватых гэтая гісторыя, пакуль невядома. ■

Інтэрфакс

КНІГАРНЯ

## Кнігі для студэнтаў, настаўнікаў, вучняў!

Сёння – кніга, па сутнасці, самы танны падарунак, які можна зрабіць сябрам, выкладчыкам, вучням, студэнтам. Тым больш, калі кніга карысная і дапаможа ў вучобе, навуцы, узбагаціць ведамі.

Цікавыя і карысныя ўзоры новай беларускай кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13. Блізка ад метро «Плошча Перамогі»).

Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.










Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №103 Нумар падпісаны ў друк 30/01/2001 (15.00) Наклад – 14.580